ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 94(5276)
Аўторак,
21 жніўня
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
80 руб.

## Інфармацыя

*З 27 жніўня па 14 верасня бягучага года ў Навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання праводзіцца выстава вучэбнай літаратуры для агульнаадукацыйных школ "Падручнікі да новага навучальнага года". На выставе будзе экспанавацца вучэбна-метадычная літаратура для агульнаадукацыйных школ з 11- і 12-гадовымі тэрмінамі навучання.*

У праграме работы выставы — правядзенне прэзентацый падручнікаў па матэматыцы для 5 — 11 класаў агульнаадукацыйнай школы з 11-гадовым тэрмінам навучання, падручнікаў для 4 класа агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання, семінара для аўтараў "Стварэнне вучэбна-метадычных комплексаў для 5-6 класаў агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання", прэс-канферэнцыі для педагагічнай грамадскасці "Вучэбная і вучэбна-метадычная літаратура да новага навучальнага года", сустрэч з пісьменнікамі А.В.Вольскім, А.К.Клышкам — аўтарамі кніг па літаратурным чытанні для пачатковай школы і іншых мерапрыемстваў.

Адкрыццё выставы адбудзецца 27 жніўня ў 11 гадзін па адрасу: г.Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 3, Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання (праезд да станцыі метро "Акадэмія навук").

Час работы выставы: *панядзелак, серада, пятніца з 10 да 16 гадзін.*

Даведкі па тэлефонах: **239-87-89, 239-87-59, 239-87-66, 239-87-58, 239-87-19.**



Мара Алесі Красоўскай (на здымку) стаць прафесіяналам урачом-педыятрам пераўтвараецца ў рэчаіснасць. Скончыўшы з чырвоным дыпломам медыцынскае вучылішча, яна паступіла ў Віцебскі медыцынскі універсітэт, у якім вучыцца таксама выдатна. Яна перайшла ўжо на чацвёрты курс лячэбна-прафілактычнага факультэта.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА
БЕЛТА.**

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

# Кліча, вабіць, гуртуе "Золак"

***Усе віды адукацыйна-выхаваўчага ўздзеяння на дзіця павінны быць гарманічна ўзаемазвязаны паміж сабой. Парушэнне гэтай узаемасувязі прыводзіць да негатыўных тэндэнцый у развіцці асобы дзіцяці.***

Дзяржаве, якая рэфармуе эканамічную і сацыяльную сферу, трэба будзе пераасэнсаваць асноўныя прынцыпы і падыходы да адукацыі і выхавання падрастаючага пакалення. Разам з асноўнымі інстытутамі — дзіцячымі дашкольнымі ўстановамі і школамі — адукацыйна-выхаваўчая дзейнасць ажыццяўляецца таксама пры дапамозе шырокай сеткі пазашкольных устаноў. Улічваючы новыя тэндэнцыі ў рэфармаванні сістэмы адукацыі і ўзрослую патрэбнасць яе пераарыентацыі на рэальныя запыты і патрэбы дзяцей, пазашкольныя ўстановы імкнуцца знайсці сваё месца ў гэтай сістэме і вызначыць функцыі, якія яны закліканы ажыццяўляць на сучасным этапе.

### Мяняецца жыццё — мяняемся і мы

Палац пазашкольнай работы (ППР) "Золак" сёння аб'ядноўвае пад адным дахам 350 супрацоўнікаў і каля 7 тысяч вучняў, 510 гурткоў, якія функцыянуюць на базе 22 філіялаў Заводскага раёна Мінска. Структура "Золака" прадстаўлена "Юніёрагенцтвам", навукова-метадычнай і сацыяльна-псіхалагічнай службай, цэнтрамі мастацка-эстэтычнага выхавання "Паўночны", "Шабаны", "Чыжоўка". Гэтая структура дазваляе працаваць з дзецьмі рознага ўзросту: ад дашкольнікаў, дзяцей малодшага, сярэдняга і старэйшага ўзросту да працоўнай і студэнцкай моладзі. Тут кожны можа знайсці сабе занятак па інтарэсах. Прыярытэтнымі ж з'яўляюцца наступныя напрамкі: мастацка-эстэтычны, прыкладны, экалагічны, тэхнічны, дапрафесійнай падрыхтоўкі, працаўладкавання падлеткаў і стварэння новых працоўных месцаў.

На базе палаца "Золак" упершыню ў рэспубліцы ў кастрычніку 1993 г. была створана падлеткавая біржа занятасці, якая стала паспяхова вырашаць не толькі пытанні прафарыентацыі і працаўладкавання непаўналетніх, але і аказваць сацыяльна-педагагічную дапамогу падлеткам.

"Золак" выступіў ініцыятарам стварэння асацыяцыі дзіцячых арганізацый і каардынуе работу дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў у раёне больш як пяць гадоў.

У традыцыі пазашкольнай педагогікі — ствараць любому дзіцяці "сацыяльную сітуацыю развіцця", асяроддзе ўзаемін, поле дзейнасці, якія немагчыма падмяніць нават самымі цікавымі ўрокамі. Мы працуем з мастацка і інтэлектуальна адоранымі падлеткамі, якія знаходзяць сябе ў гуртках тэхнічнай творчасці, спартыўных секцыях, вакальна-інструментальных ансамблях. Не забыты ў нас і дзеці-інваліды.

Пазашкольная ўстанова заклікана вырашаць многія праблемы. У нас у гэтым плане назапашаны багаты вопыт у выглядзе традыцыйных форм работы з дзецьмі і падлеткамі, а менавіта: клубы па месцы жыхарства, гурткі, секцыі, студыі, працоўныя аб'яднанні і інш.

Накірункі дзейнасці "Золака" знайшлі сваё адлюстраванне ў праграме "Асоба і творчасць", Канцэпцыі сацыяльна-педагагічнай дзейнасці Заводскага раёна, праграме "Адораныя дзеці". На працягу чатырох гадоў "Золак" удзельнічае ў праграме ЮНЕСКА "Вучымся і вучым культуры міру".

У працэсе рэфармавання агульнаадукацыйнай школы і ўсёй сістэмы адукацыі ўвогуле пашыраюцца формы і метады дзейнасці пазашкольнай установы. Яна выступае як адкрытая адукацыйна-выхаваўчая сістэма, якая ўзаемадзейнічае з арганізацыямі, дашкольнымі ўстановамі і школамі раёна.

"Золак" цесна супрацоўнічае з БПСМ, садзейнічае стварэнню ў раёне піянерскіх дружын і атрадаў, з'яўляецца метадычным цэнтрам па навучанні педагогаў-арганізатараў школ раёна.

Падчас рэформы школы паявіліся інавацыйныя формы дзейнасці: псіхалагічная служба, тэлефон даверу, клуб узаемін, інфацэнтр, хобіцэнтр і інш.

Каб адпавядаць патрабаванням часу, пры "Золаку" створаны гурткі і школы дадатковай адукацыі, дзе падлеткі атрымліваюць дапрафесійную падрыхтоўку па спецыяльнасцях "кухар і афіцыянт, сакратар-рэферэнт, прадпрымальнік, рэкламны агент, майстар прыкладной творчасці".

Паслядоўны перавод агульнаадукацыйнай школы на навучанне з 6-гадовага ўзросту ініцыіраваў стварэнне гурткоў на базе дзіцячых садоў і клубаў, школ эстэтычнага выхавання для дашкольнікаў "Мазаіка", "Малышок" для больш якаснай падрыхтоўкі дзяцей да школы.

Узаемадзеянне са школамі мяркуе адкрыццё новых гурткоў на базе школ: спартыўных, экалагічных, інтэлектуальных. Так, у цэнтры "Шабаны" 20 працэнтаў гурткоў функцыянуюць на базе школ мікрараёна. Супрацоўніцтва са школамі не абмяжоўваецца толькі адкрыццём гурткоў на іх базе. Гэта і правядзенне сумесных мерапрыемстваў, святаў са школамі №№ 8, 14, 200, 210. Эфектыўнае супрацоўніцтва наладжана з 5-й і 10-й школамі-інтэрнатамі, дзіцячым садам № 65 і дзіцячым домам № 6.

### Напярэдадні з'езда

Гаворачы пра сістэму работы пазашкольных устаноў, нельга не сказаць і пра нашы праблемы. Складанасць работы ў пазашкольных установах заключаецца ў тым, што дзеці ў нас займаюцца добраахвотна, таму ўсё залежыць ад прафесійнай кампетэнтнасці педагога. Далейшае развіццё пазашкольнай педагогікі, выкарыстанне сучасных інавацыйных выхаваўчых тэхналогій з улікам спецыфікі, напрамкаў дзейнасці дзіцячых калектываў патрабуюць добрай прафесійнай падрыхтоўкі кадраў.

Безумоўна, хацелася б палепшыць і ўмовы правядзення гуртковай работы па месцы жыхарства. Цяпер нашы філіялы — гэта пераважна памяшканні кватэрнага тыпу. Хацелася б, каб гэта былі спецыяльна выдзеленыя, добра абсталяваныя памяшканні, такія, як, напрыклад, клуб "Поўнач" у цэнтры "Паўночны".

Падтрымліваем пункт гледжання нашых гомельскіх калег па ўнясенні дапаўненняў да Пастановы Міністэрства адукацыі ад 1.08.96 г. "Парадак расходавання сродкаў, атрыманых установамі адукацыі ад ажыццяўлення гаспадарчай і камерцыйнай дзейнасці"— аб арганізацыі пазабюджэтнай гаспадарчай дзейнасці ўстаноў пазашкольнай адукацыі і выхавання, узгадніўшы гэтае пытанне з Міністэрствам фінансаў. Гэта дапамагло б пазашкольным установам вырашыць фінансавыя праблемы.

Мы, работнікі пазашкольных устаноў, прапануем статус педработнікаў устаноў пазашкольнай адукацыі выхавання прыраўняць да статусу педработнікаў школ і дашкольных устаноў. Мы ўскладаем вялікія спадзяванні ў плане вырашэння нашых праблем на II з'езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь і напярэдадні яго жадаем усім калегам здароўя, невычэрпнай энергіі і творчасці ў справе адукацыі і выхавання падрастаючага пакалення.

**Алена КУРОЎСКАЯ,
метадыст па вучэбна-выхаваўчай рабоце цэнтра "Шабаны".**

Лета–2001

# Праз экалогію прыроды — да экалогіі душы

***Цікавасць да экалогіі і імкненне пераадолець негатыўныя стэрэатыпы ў адносінах да маладых людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі аб'ядналі юнакоў і дзяўчат, якія на дзесяць дзён сабраліся ў Лагойскім раёне.***

Яны сталі ўдзельнікамі летняга фестывалю "Круглае возера-2001". Гэтую акцыю правяло беларускае грамадскае аб'яднанне "Розныя — роўныя" пры падтрымцы міжнароднай арганізацыі "Бурэнка".

Удзельнікі размясціліся ў палатачным лагеры на беразе Плешчаніцкага вадасховішча. Сярод іх былі людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Адзінай дружнай сям'ёй хлопцы і дзяўчаты не толькі весела адпачылі, але і пазнаёміліся са спецыфікай работы грамадскіх аб'яднанняў, вывучылі асновы экалогіі. Маладыя людзі правялі канкрэтную экалагічную акцыю — прыбралі на тэрыторыі вакол лагера смецце, пакінутае іх папярэднікамі. У выніку трактар, выдзелены мясцовым Акцябрскім сельсаветам, вывез цэлы прычэп паперы, пластыку, шкляных бутэлек і іншага хламу.

— Фестываль "Круглае возера" праходзіць трэці год запар, — расказаў каардынатар гэтага праекта Аляксей Кудасаў. — Кожны раз на фестывалі збіраюцца як здаровыя маладыя людзі, так і іх аднагодкі з фізічнымі абмежаваннямі. Агульная справа і жывыя ўзаеміны дапамагаюць юнакам і дзяўчатам пераадольваць псіхалагічны бар'ер, які перашкаджае ім свабодна ігарманічна стасавацца. Гэта шчасце, калі людзі, усе такія розныя — роўныя і — разам.

**Сяргей КУЖОЎНІК,
член каардынацыйнага савета БГА "Розныя — роўныя".**

## Весткі

### Фестываль у Воранава

***20 творчых калектываў удзельнічалі ў фестывалі польскай песні ў Воранаве Гродзенскай вобласці.***

Парадавалі гледачоў мясцовы ансамбль "Адраджэнне", гурты з Гродна, Ліды, Катовіц і інш. У рэпертуары творчага спаборніцтва пераважалі народныя песні.

### Радуюць кветкі

***У Касцюковіцкім краязнаўчым музеі адбылася выстава кветак. Арганізавалі яе людзі, якія шануюць і любяць кветкі.***

Свае кветкі выставілі цэнтральная бібліятэка горада, дзіцячы сад "Пралеска".

### Стэла ля Навабеліцы

***Навабеліца — паўднёвыя вароты Гомеля. Некалі праз яе ехаў у ссылку Аляксандр Пушкін.***

Зараз адміністрацыя Гомельскага раёна вырашыла паставіць на ўскрайку Навабеліцы стэлу ў гонар яе заснавання.

### Маладосць — не перашкода

***У Касцюковіцкім краязнаўчым музеі праходзіла выстава 19-гадовага мастака-афарміцеля Валерыя Купцова.***

Карціны мастака выяўляюць не толькі прыгажосць роднага краю — ледзь не кожная пазначана журбой і смуткам. Гэта — невыпадкова: вёска, дзе нарадзіўся зямляк Аркадзя Куляшова, выселена з-за чарнобыльскай радыяцыі.

### Семінар для школьнікаў

***У Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці працуе семінар для школьнікаў "Асновы літаратурнай творчасці".***

Па ініцыятыве дырэктара Войханскай базавай школы Леаніда Гаравога перад юнымі аматарамі прыгожага пісьменніка выступіў празаік Франц Сіўко. Потым удзельнікі семінара ўшанавалі памяць свайго земляка і найбольш верагоднага аўтара славутага "Тараса на Парнасе" Канстанціна Вераніцына.

### Малююць дзеці

У выставачнай зале музея Бялыніцкага-Бірулі адбылася традыцыйная выстава дзіцячай творчасці, на якой былі прадстаўлены 75 нацюрмортаў, створаных навучэнцамі Магілёўскай гарадской дзіцячай мастацкай школы.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

# Ці будзе святам Першае верасня для дзяцей са Старынак?

*Паважаная рэдакцыя!*

*Звяртаюцца да Вас бацькі дзяцей Старынкаўскай пачатковай школы Івянецкага сельскага Савета Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Вельмі просім Вас дапамагчы захаваць школу ў в.Старынкі. У школу ходзяць 20 дзяцей з в.Старынкі і в.Замасцяны ва ўзросце ад 6 да 8 гадоў. Пасля яе закрыцця нашых маленькіх дзяцей прыйдзецца вазіць у Івянецкую сярэднюю школу або Шыкуцёўскую базавую школу. А дзеці ж будуць хадзіць у школу ў дзве змены. Рэйсавыя аўтобусы ходзяць рэдка, прыстасавацца да іхняга раскладу цяжка. Усе бацькі маладога, працаздольнага ўзросту, не могуць кідаць працу, каб дастаўляць сваё дзіця ў школу і сустракаць яго.*

*Мы звярталіся ў Валожынскі раённы аддзел адукацыі, але нам далі адмоўны адказ.*

**МІХАЛОЎСКАЯ, БУРАЧЭЎСКАЯ і інш.
(усяго 16 подпісаў).**

Гэтае пісьмо было накіравана для разгляду і прыняцця мер у Мінскае абласное ўпраўленне адукацыі. Намеснік начальніка ўпраўлення М.М.Башко даў наступны адказ: "Упраўленне адукацыі аблвыканкама разгледзела зварот бацькоў вучняў Старынкаўскай пачатковай школы з выездам на месца.

Падрыхтаваны праект рашэння Валожынскага райвыканкама аб закрыцці Старынкаўскай пачатковай школы з-за эканамічнай немэтазгоднасці яе ўтрымання. На пачатак навучальнага года ў школе павінны займацца 19 вучняў. Прадугледжваецца, што гэтыя дзеці будуць наведваць Шыкуцёўскую базавую школу, якая знаходзіцца на адлегласці 3,4 км ад в.Старынкі. З 1.09.2001 г. генеральны дырэктар калектыўнага ўнітарнага прадпрыемства "Крыніца" Кучынскі А.Ч. арганізуе падвоз дзяцей у школу і назад. У шыкуцёўскай базавай школе праводзяцца заняткі ў адну змену, ёсць харчблок, будзе арганізавана харчаванне.

Валожынскі райвыканкам захоўвае Шыкуцёўскую базавую школу ў сувязі з тым, што ў гэтым мікрараёне плануецца пабудаваць дамы для работнікаў калектыўнага ўнітарнага прадпрыемства, якія будуць працаваць на ферме. Настаўнікі, якія працавалі ў Старынкаўскай пачатковай школе, будуць працаўладкаваны ў Шыкуцёўскую базавую школу".

**АД РЭДАКЦЫІ.** Шкада, што закрываецца школа, якую наведваюць 19 дзяцей — а гэта дастаткова для таго, каб яе захаваць.

# Зварот

## да кіраўнікоў дзяржавы, заканадаўчай і выканаўчай улад, усіх дарослых і дзяцей Рэспублікі Беларусь

Мы, удзельнікі Нацыянальнай дзіцячай асамблеі "Палепшым свет для дзяцей разам з дзецьмі", прадстаўнікі розных дзіцячых аб'яднанняў сабраліся з усіх рэгіёнаў Беларусі, каб выказаць свае думкі і прапановы наконт сённяшняга і будучага.

Мы адзначаем:

Сённяшняе становішча дзяцей не задавальняе нас.

Закон аб правах дзіцяці Рэспублікі Беларусь дэкларуе, але, на жаль, не гарантуе ўсім дзецям роўныя правы, і не заўжды гэтыя правы паважаюцца дарослымі.

Не ўсе дзеці могуць атрымаць адукацыю высокай якасці. Існуе праблема перагрузкі школьнай праграмы, і разам з тым важныя, на наш погляд, прадметы адсутнічаюць. Жадае лепшага і якасць выкладання прадметаў, матэрыяльная база. У такім стане школа не можа якасна падрыхтаваць нас да дарослага жыцця.

Медыцынскае абслугоўванне, якое знаходзіцца на нізкім узроўні, не дае магчымасці дзецям рэалізаваць у поўнай меры свае правы на выжыванне і дастатковае фізічнае развіццё.

Сацыяльныя, экалагічныя, палітычныя праблемы, якія існуюць у грамадстве, ствараюць сітуацыю нестабільнасці сем'і, няўпэўненасці бацькоў у лепшай будучыні сваіх дзяцей, што вядзе да распаду сем'яў, распаўсюджвання такіх негатыўных з'яў, як алкагалізм, наркаманія, суіцыд і іншыя.

Асаблівую трывогу выклікаюць у нас праблемы экалогіі, звязаныя з Чарнобыльскай трагедыяй і забруджаннем навакольнага асяроддзя.

Мы жадаем, каб:

— дарослыя, у тым ліку кіраўнікі краіны, міністэрствы, ведамствы, грамадскія аб'яднанні, чулі, разумелі, паважалі нас, дзяцей, улічвалі нашы пажаданні і дапамагалі нам у нашых добрых намерах, гарантавалі ўмовы, якія дазваляюць нам праявіць ініцыятыву, а таксама супрацоўнічалі з намі на роўных правах;

— дзеці Беларусі прымалі актыўны ўдзел у прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях праз розныя формы дыялогу дзяцей і дарослых;

— адбыліся перамены да лепшага ў магчымасці дзяцей рэалізаваць свае правы;

— былі прадугледжаны больш спрыяльныя ўмовы для існавання дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў;

— адукацыя стала цікавым працэсам, накіраваным на атрыманне ведаў і ўменне выкарыстоўваць іх у жыцці;

— усе дзеці мелі аднолькавыя стартавыя магчымасці атрымання базавай адукацыі і развіцця сваіх талентаў, здольнасцей у адпаведных установах, у тым ліку і ў вышэйшых навучальных;

— усе дзеці былі абаронены ад фізічнага, маральнага, псіхалагічнага насілля;

— дзяржавай было забаронена распаўсюджванне рэкламы тытунёвых вырабаў, спіртных напояў;

— на першае месца былі пастаўлены задачы вырашэння праблем здароўя, фізічнага развіцця дзяцей, прафілактыкі ВІЧ/СНІДу, алкагалізму, наркаманіі і курэння;

— усе дзеці мелі магчымасць разумна і змястоўна праводзіць свой вольны час, адпачываць у летніках, санаторыях, прафілакторыях;

— усе пытанні ў грамадстве ў адносінах паміж людзьмі вырашаліся на прынцыпах разумення, цярпімасці, ненасілля.

Мы можам:

— быць раўнапраўнымі партнёрамі дарослых;

— стаць ініцыятарамі і арганізатарамі пастаянна дзеючых "круглых сталоў" у кожным раёне, горадзе з удзелам дзяцей і дарослых, у тым ліку дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, для абмеркавання неадкладных пытанняў і дзеянняў у інтарэсах дзяцей;

— прапаноўваць і рэалізоўваць сацыяльна значныя праекты, ініцыятывы па вырашэнню існуючых праблем;

— удзельнічаць у правядзенні рэформы адукацыі: удасканаленні праграм навучання і выхавання праз органы вучнёўскага самакіравання, грамадскія арганізацыі, школьныя профільныя аб'яднанні;

— весці здаровы лад жыцця і прапагандаваць яго сярод дзяцей і падлеткаў, ствараць адпаведныя клубы, праяўляць дзіцячыя ініцыятывы;

— зарабляць самастойна грошы сваім талентам і майстэрствам, калі будуць для гэтага ўмовы.

Надышоў час дзейнічаць усім нам разам! Мы прапануем Вам супрацоўніцтва! Мы не толькі будучыня — мы яшчэ і сучаснае!

**Да ўвагі кіраўнікоў, выкладчыкаў агульнаадукацыйных школ, ліцэяў, гімназій, каледжаў, прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, органаў адукацыі**

# Аб навучанні правам чалавека, правам дзіцяці і міжнароднаму гуманітарнаму праву ў навучальных установах Рэспублікі Беларусь у 2001 — 2002 навучальным годзе

Міністэрства адукацыі інфармуе, што навучанне правам чалавека, правам дзіцяці і міжнароднаму гуманітарнаму праву ў навучальных установах краіны ў 2001-2002 навучальным годзе будзе ажыццяўляцца:

* у агульнаадукацыйных школах, гімназіях, ліцэях, каледжах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах згодна інструктыўна-метадычнаму пісьму Міністэрства адукацыі "Аб выкладанні правоў чалавека і міжнароднага гуманітарнага права ў агульнаадукацыйных школах і прафесійна-тэхнічных вучылішчах у 2000-2001 навучальным годзе", якое апублікавана ў "Настаўніцкай газеце" № 85 ад 22 жніўня 2000 г.;

* у сярэдніх спецыяльных навучальных установах згодна інструктыўна-метадычнаму пісьму Міністэрства адукацыі "Аб выкладанні правоў чалавека і міжнароднага гуманітарнага права ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах у 2000-2001 навучальным годзе", якое апублікавана ў "Настаўніцкай газеце" № 85 ад 22 жніўня 2000 г.;

* у вышэйшых навучальных установах згодна інструктыўна-метадычнаму пісьму Міністэрства адукацыі "Аб выкладанні правоў чалавека і міжнароднага гуманітарнага права ў вышэйшых навучальных установах у 2000-2001 навучальным годзе", якое апублікавана ў "Настаўніцкай газеце" № 86 ад 26 жніўня 2000 г.

Звяртаем увагу на неабходнасць безумоўнага выканання ўказаных інструктыўна-метадычных пісьмаў.

**Галоўнае ўпраўленне сацыяльнай і выхаваўчай работы**

**Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі**

**Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі**

У вайсковай часці Пухавіцкага гарнізона завяршаецца трэцяя змена ў летнім абаронна-спартыўным летніку "Абаронца". Шэсцьдзесят падлеткаў, якія вырашылі прысвяціць сваё жыццё абароне Радзімы, на працягу месяца асвойвалі азы салдацкай працы, праходзілі дэсантную падрыхтоўку, вывучалі курс маладога байца, набывалі навыкі прыжкоў з парашутам і падводнага плавання. У састаў юнармейцаў былі ўключаны і так званыя цяжкія падлеткі, паводзіны якіх тым не менш цалкам адпавядалі статуту "Абаронца".

НА ЗДЫМКАХ: самы малодшы ў змене дзесяцігадовы Ілля Кобалеў. Намеснік камандзіра часці па выхаваўчай рабоце Аляксандр Бруенка і першы сакратар абласнога камітэта БПСМ Алена Скрыпко з дзецьмі.

**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ, БЕЛТА.**

# Стрэльбы і вучэнні забыць нельга...

***Народнае паданне гаворыць, што зямля можа накарміць чалавека сваім хлебам, напаіць вадой са сваіх крыніц, але абараніць сама сябе яна не можа. Гэта святая справа арміі. У Беларусі няма сям'і, лёс якой не быў бы цесна звязаны з абаронай Айчыны.***

СПАКОН веку Белая Русь падвяргалася нападам заваёўнікаў, станавілася арэнай узброеных канфліктаў, полем бітвы і сутыкненняў, гібелі мільёнаў людзей. Але, як кажуць, кроў людская не вадзіца, стагоддзі і гады ніколі не сатруць з памяці тое, што адбывалася на шматпакутнай беларускай зямлі. І таму воін-вызваліцель, чалавек у ваеннай форме выклікаў і выклікае ў беларусаў павагу.

Абвяшчаючы Ваенную дактрыну, якая мае выключна абарончы характар, Рэспубліка Беларусь выступае за стварэнне ўсёабдымнай сістэмы еўрапейскай бяспекі і садзейнічае збалансаванаму скарачэнню ўзбраенняў у рамках міжнародных дагавораў. Міралюбівы курс дзяржавы спалучаецца з пастаяннымі намаганнямі па ўмацаванні яе абараназдольнасці, падмуркам якой з'яўляюцца Узброеныя Сілы. Рэальны шлях забеспячэння бяспекі рэспублікі — гэта далейшае развіццё Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, сумеснага ваеннага супрацоўніцтва брацкіх краін.

Вопыт узброеных канфліктаў апошняга часу наглядна паказаў, якой павінна быць сучасная армія, калі на першы план выходзяць палітычныя, эканамічныя і інфармацыйныя формы барацьбы.

Безумоўна, усебаковая гатоўнасць любой арміі да процідзеяння агрэсіі і нанясення праціўніку ўрону правяраецца ў ходзе вучэнняў і манеўраў усіх відаў і радоў войскаў з баявымі стрэльбамі і пускамі ракет, бомбакіданнем, фарсіраваннем водных перашкод, дэсантаваннем і многімі іншымі вучэбна-баявымі дзеяннямі. Без пастаяннай баявой падрыхтоўкі і сістэматычных трэніровак, без палявых заняткаў і баявой вучобы немагчыма гаварыць пра боегатоўнасць і зладжанасць армейскага арганізма.

У пасляваенны час на тэрыторыі Беларусі прайшла вялікая колькасць буйных вучэнняў. Напрыклад, "Дзвіна", "Днепр", "Бярэзіна", "Захад-81", "Нёман" і іншыя. Пра рашучыя дзеянні іх удзельнікаў нагадваюць захапляючыя кадры дакументальных кінастужак, артыкулы ў газетах і часопісах, нарысы і расказы ідавочцаў. У беларускай арміі служыць шмат удзельнікаў гэтых вучэнняў, якія выкарыстоўваюць атрыманы вопыт у ходзе баявой падрыхтоўкі войскаў.

Упершыню пасля атрымання Рэспублікай Беларусь незалежнасці ў перыяд з 26 жніўня па 3 верасня пад кіраўніцтвам міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Леаніда Мальцава пройдзе комплекснае аператыўна-тактычнае вучэнне "Нёман-2001".

У гэтыя спякотныя жнівеньскія дні ў органах кіравання войскамі і ў часцях праходзяць камандна-штабныя трэніроўкі, узводныя і ротныя тактычныя вучэнні, баявое зладжванне падраздзяленняў, падрыхтоўка ўзбраення і баявой тэхнікі палігонаў і ўсіх відаў забеспячэння. Правяраецца ўсё да драбніц. Асаблівая ўвага, безумоўна, удзяляецца падрыхтоўцы асабовага саставу, ад зладжаных і ўмелых дзеянняў якога залежыць канчатковы вынік. Юнак, які нядаўна прыняў прысягу, і малады лейтэнант, які месяц назад атрымаў пагоны, вопытны камбрыг і першакласны лётчык-знішчальнік прасякнуты адной мэтай — годна выканаць пастаўленую задачу на вучэнні.

Згодна з задумай вучэння, зацверджанай Галоўнакамандуючым Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам будуць практычна адпрацаваны пытанні сумеснага планавання і прымянення ўсіх відаў і радоў войск Узброеных Сіл, войскаў і воінскіх фарміраванняў іншых сілавых ведамстваў — МУС, Дзяржпагранвойскаў, МНС, Чыгуначных войскаў па вырашэнні магчымага ўзброенага канфлікту. У цесным узаемадзеянні органы кіравання і войскі пацвердзяць гатоўнасць да выканання задач згодна са сваім прызначэннем у розных умовах абставін і, канешне ж, будуць удасканальваць палявую вывучку і майстэрства.

Неабходнасць такога мерапрыемства абгрунтавана тым, што змяненне форм і спосабаў узброенай барацьбы на сучасным этапе патрабуе перагляду многіх прынцыповых палажэнняў ваеннага мастацтва і поглядаў на характар магчымай вайны ўвогуле. Неабходна ўнесці карэктывы ў сістэму кіравання Узброенымі Сіламі, адпрацаваць новыя падыходы да арганізацыі і вядзення баявых дзеянняў, праверыць і адпрацаваць іх у ходзе вучэнняў на ўсіх узроўнях. "Прывядзенне беларускай арміі ў адпаведнасць з ваенна-палітычнай сітуацыяй і эканамічнымі магчымасцямі дзяржавы, — падкрэсліў нядаўна міністр абароны генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў, — наданне нашай арміі сучаснага аблічча, а таксама кардынальнае вырашэнне існуючых армейскіх праблем — галоўная мэта якасных пераўтварэнняў усіх элементаў армейскага арганізма. Працэс умацавання Узброеных Сіл павінен весціся без перапынку, інакш яны непазбежна застынуць у развіцці, перастануць адпавядаць сучасным патрабаванням і ў канчатковым выніку не змогуць забяспечваць надзейную абарону сваёй дзяржавы". Завяршэннем рэфармавання арміі прадыктаваны сур'ёзныя даследчыя мэты маючага адбыцца мерапрыемства. Будуць вывучаны дзеянні органаў кіравання ў новай арганізацыйна-штатнай структуры. Гаворка ідзе, перш за ўсё, пра дзейнасць Генеральнага штаба — органа каардынацыі дзеянняў усіх сілавых структур, адзінага камандавання аб'яднанага віду Узброеных Сіл — ВПС і войскаў ППА, Галоўнага штаба Сухапутных войскаў. На практыцы будзе праверана магчымасць стварэння тэрытарыяльных войскаў і ў цэлым структуры тэрытарыяльнай абароны краіны. Вынікі эксперыменту будуць уважліва вывучаны для далейшага прыняцця мэтазгодных рашэнняў.

У буйнамаштабным вучэнні возьмуць удзел каля дзевяці тысяч вайскоўцаў, больш як 1600 адзінак узбраення і ваеннай тэхнікі, у тым ліку 60 танкаў і 190 іншых бронемашын, 60 ракетных і артылерыйскіх сістэм, 48 самалётаў і верталётаў, а таксама больш як 130 комплексаў ППА. Плануецца звыш ста вылетаў паветраных сродкаў знішчальнай, бамбардзіровачна-разведвальнай і транспартнай авіяцыі. Асобныя падраздзяленні 6-й механізаванай брыгады будуць даводзіцца да штату ваеннага часу. Каля 380 афіцэраў, сяржантаў і салдат будуць прызваны з запасу. Гэта таксама з'явіцца новым за апошняе дзесяцігоддзе мерапрыемствам, таму што практычная адпрацоўка пастаўкі мабілізацыйных рэсурсаў з запасу не праводзілася.

Пацвярджэннем буйнамаштабнасці вучэння з'яўляецца тое, што ў яго рамках пройдуць стрэльбы беларускіх зенітных ракетных брыгад у Расійскай Федэрацыі на палігонах Балтыйскага флоту пад Калінінградам і ў Ашулуку, што ў Астраханскай вобласці. Нашы самалёты здзейсняць пералёт з аэрадрома пад Баранавічамі на палігон Ашулук і з ходу атакуюць там ракетамі мішэні. Потым падрыхтуюцца да зваротнага палёту, установяць неабходнае ўзбраенне, вернуцца назад у Беларусь і выканаюць пускі ракет па мішэнях у ходзе вучэння "Нёман-2001". Плануецца авіяўдар на Ружанскім палігоне з мэтай паралізаваць дзеянні варожага боку. Акрамя таго, авіяцыя выканае задачы па паветранай разведцы, пастаноўцы перашкод, транспарціраванні сіл і сродкаў і, безумоўна, падтрымцы дзеянняў сухапутных войскаў.

ВУЧЭННЕ пройдзе ў некалькі этапаў. З 26 па 28 жніўня войскі будуць прыведзены ў вышэйшую ступень баявой гатоўнасці, а з 28 па 30 жніўня — перамесцяцца ў раёны вучэння і падрыхтуюцца да баявога прымянення. 30-31 жніўня і 1 верасня пройдуць баявыя дзеянні. У прыватнасці, механізаваныя армейскія часці і падраздзяленні ўнутраных войскаў будуць узаемадзейнічаць з пагранічнымі войскамі ў ходзе прыкрыцця асобных участкаў дзяржаўнай граніцы. На Гожскім палігоне пад Гродна пройдзе батальённае тактычнае вучэнне з баявой стральбой. У ходзе дзеянняў войскаў будзе наведзена пантонна-маставая пераправа цераз раку Нёман. На Абуз-Лясноўскім палігоне падраздзяленні мабільных сіл правядуць аперацыю па знішчэнні бандфарміраванняў. Адным словам, "блакітныя" і "крапавыя", "зялёныя" і "малінавып" берэты прадэманструюць сваё майстэрства ў ходзе вучэбна-баявых дзеянняў. Там жа будуць адпрацоўвацца сумесныя дзеянні войскаў МУС, ваенізаваных падраздзяленняў МНС з удзелам спецыялістаў аховы здароўя. Падраздзяленні 50-й гвардзейскай механізаванай брыгады правядуць вучэнні з баявой стральбой, а ваеннаслужачыя Чыгуначных войскаў пакажуць свае навыкі і ўменні ў ходзе будавання ракаднага чыгуначнага моста ў раёне Стоўбцаў. Плануецца, што на асноўных этапах вучэння будзе прысутнічаць Галоўнакамандуючы і назіраць за яго ключавымі момантамі.

У ходзе вучэння плануецца выкарыстаць новыя віды ўзбраення і тэхнікі, перш за ўсё, айчыннай вытворчасці. Сістэмы залпавага агню "Белград" на базе МАЗа, двухвосевы аўтамабіль МАЗ-5316, ЗІЛ-131 з дызельнымі рухавікамі, дзённыя і начныя прыцэлы да стралковай зброі і іншыя навінкі.

Патрэбна адзначыць, што вучэнні будуць, як кажуць, "празрыстымі". На іх мяркуецца запрасіць ваенных аташэ, акрэдытаваных пры пасольствах тых альбо іншых краін у Беларусі. Прадстаўнікі ўсіх дзяржаў, якія мяжуюць з Рэспублікай Беларусь, таксама змогуць у якасці назіральнікаў наведаць вучэнні. Акрамя таго, запрашаюцца прадстаўнікі замежных і беларускіх СМІ. Кіраўнікам вучэнняў пастаўлена задача стварыць усе ўмовы для таго, каб кожны яго ўдзельнік меў магчымасць свабодных узаемін з прэсай.

**Леанід ПРЫШЧЭПА,**
**прэс-служба Міністэрства абароны.**

Скажу добрае слова

# Усё застаецца людзям

***Гавораць, што жыццё чалавека вымяраецца не каляндарнай колькасцю гадоў, а тым часам, які назаўсёды пакінуў у душы глыбокі след, днямі, пражытымі з усёй паўнатой думак і пачуццяў.***

У адных людзей такіх дзён многа, у другіх — менш. А некта, на жаль, увогуле не вядзе ім лік.

Менавіта гэтая думка часта ўзнікае ў многіх нашых былых выпускнікоў 52-й сталічнай школы, якая раней размяшчалася на вул. Пірагова, калі мы і цяпер, амаль праз сорак гадоў пасля яе заканчэння, звязваем лепшыя гады свайго жыцця з адчуваннем бясцэннасці гэтага светлага, незабыўнага часу, асабліва калі з глыбокай удзячнасцю ўспамінаем пра свайго любімага класнага кіраўніка, настаўніцу славеснасці, выдатніцу народнай адукацыі — дарагую нашым сэрцам Вольгу Георгіеўну Пяцькову або В.Г., як мы яе паважліва называем.

Многае змянілася за мінулыя гады. Няма цяпер гарэзлівых і летуценных дзяўчынак і хлапчукоў. Яны сталі паважанымі людзьмі самых розных прафесій: інжынеры і тэхнолагі, эканамісты і філолагі, гісторыкі і праграмісты, перакладчыкі і дырэктары школ, мастакі і ваенныя ўрачы, юрысты і фізікі і, канешне, педагогі, якія толькі дзякуючы вялізнаму ўплыву і любові да справы В.Пяцьковай, якой яна годна служыла, абралі гэтую цудоўную і высакародную прафесію. Але кім бы мы ні сталі, наша ўдзячнасць выкладчыку вялікая ўжо таму, што ён навучыў нас галоўнаму — уменню працаваць, набываць трывалыя веды.

Усцешна, што ў наш мітуслівы час мы, усе яе вучні, свята шануем памяць школьных гадоў, знаходзім і цяпер магчымасць зайсці да любімай настаўніцы ў госці на "аганёк", успомніць сваіх сяброў, пагаварыць пра жыццё, час, пра сябе. Паказаць фатаграфіі сваіх дзяцей, унукаў або проста аказаць дапамогу свайму настаўніку ў жыццёвых справах. Гэтыя сустрэчы і ўзаеміны дапамагаюць нам не заставацца абыякавымі і старацца не перарываць так неабходную сёння ўсім нам сувязь пакаленняў. А галоўнае, яны ўмацоўваюць і ўзвышаюць дух, дапамагаюць дагэтуль прад'яўляць да сябе высокія маральныя патрабаванні і выпрацоўваюць здольнасць спраўляцца з жыццёвымі цяжкасцямі.

Безумоўна, гэтая памяць сэрца выхоўвае нас і сёння, абараняе, а таксама робіцца дзейсным штуршком для таго, каб яшчэ і яшчэ раз сустрэцца з нашым настаўнікам, папрасіць адказаць на некаторыя пытанні.

— Вольга Георгіеўна, дзякуй, што пагадзіліся на гэтую гутарку з вашым былым вучнем, і хачу верыць, што яна будзе цікавая і для чытачоў "Настаўніцкай газеты".

Ваш педагагічны стаж складае амаль сорак гадоў. За ўвесь гэты час Вы паспяхова працавалі і інспектарам народнай адукацыі, і намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце ў спецінтэрнаце № 9 для дзяцей, хворых на скаліёз. Аднак Вы часта гаворыце пра тое, што глыбокі след у вашым жыцці пакінула праца настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў 1953-1965 гадах у нашай дарагой 52-й школе Мінска. Цікава было б даведацца, а што для Вас асабіста азначае паняцце "настаўнік"? Што гэта — асаблівы дар, вопыт?

— Напэўна, гэта гучна сказана — дар. У маім разуменні настаўнік павінен быць яркай асобай з абвостраным маральным пачуццём і выхоўваць перш за ўсё на ўласным прыкладзе. Але хачу заўважыць, што само паняцце прыкладу — значна больш складанае, чым часта думаюць. Можна быць добрасумленным і ўмелым настаўнікам, можна ставіць такога настаўніка ў прыклад іншым, і ніхто не стане пярэчыць — але не адгукнецца ад судакранання з гэтым чалавекам душа яго выхаванца, не захопіцца, не пойдзе следам. Думаю, што для настаўніка аднаго майстэрства мала, трэба яшчэ і ўнутраны запал, тое, што не ўсякаму, на маю думку, дадзена. Для гэтага патрэбны свайго роду чалавечы талент.

— Добра, што Вы закранулі гэтую тэму. Неяк, гартаючы слоўнік У.Даля, прачытаў, што "талант" і "талан" — гэта, па сутнасці, адно слова, і ёсць у яго яшчэ больш шырокае тлумачэнне — лёс.

Цікава, а што, Вы самі ўкладваеце ў гэтыя паняцці?

— Гавораць, што, выхоўваючы дзіця, мы супрацоўнічаем з Богам. І гэта ніколі не бывае лёгка. А адкрыць свой талент і здзейсніць яго яго для сябе і людзей — у гэтым я бачу прызначэнне чалавека, а значыць, сваё.

Зразумеўшы і паверыўшы, што ў мяне ёсць педагагічны талент, я думала не пра поспех. Мне нават страшна стала, калі я падумала, што, валодаючы дарам уплываць на душы дзяцей, можна прынесці і вялізную карысць, і вялізную шкоду. Дзякую лёсу за тое, што ён падараваў мне лепшыя праявы.

Апошнім часам часта згадваю словы акадэміка Дронава з кінафільма "Усё застаецца людзям", калі ён гаварыў пра тое, што туды, у іншы свет, мы з сабой нічога не возьмем, таму што ўсё застаецца людзям: і благое, і добрае.

— Згодны з Вамі, што гэта быў сапраўдны герой свайго часу, і я добра памятаю гэты фільм з удзелам акцёра Мікалая Чаркасава. Былі і ў мяне людзі, да якіх я хацеў быць падобным. У тым ліку і нашы старшакласнікі. Як жа зрабіць, каб такія людзі былі і цяпер?

— Упэўнена, што яны ёсць. Такія людзі — як дрожджы. Там, дзе яны, абавязкова адбываюцца перамены, развіццё. І як тут не ўзгадаць далёкі 1953 год, ускраіну Мінска, дзе я ўбачыла маленькі двухпавярховы, толькі што ўзведзены будынак нашай 52-й школы, светлы і ўтульны.

Пазней сіламі шэфаў, камбіната будматэрыялаў, настаўнікаў, бацькоў, вучняў ён яшчэ больш змяніўся: былі пабудаваны майстэрні, апрацаваны прышкольны ўчастак, пасаджаны і вырашчаны сад. Побач з Домам культуры абсталяваны стадыён. Хочацца аддаць належнае першаму дырэктару школы Васілю Сяргеевічу Дружбіну, які змог тады згуртаваць наш педагагічны калектыў. Па ягонай ініцыятыве ўсе дзеці ў школе былі ахоплены гуртковай работай, якую вялі на грамадскіх пачатках нашы цудоўныя настаўнікі І.Раманава, І.Навумовіч, Е.Гайдукевіч, Я.Стралецкі, Е.Кауфман, М.Падаляка, К.Янушкевіч і многія іншыя.

Думаю, гэта былі таксама людзі, якія прымалі на сябе адказнасць за выхаванне юнага пакалення.

— Не магу з Вамі не пагадзіцца, бо наша занятасць у гуртках не давала нам магчымасці замыкацца ў сабе, мы, як губка, упітвалі ўсё лепшае, чаму вы, нашы настаўнікі, нас вучылі. Ці не таму мы скончылі школу з добрымі ведамі. Бо ў нашым класе было шэсць медалістаў, а 70 працэнтаў аднакласнікаў атрымалі атэстаты з адзнакамі "чатыры" і "пяць".

Скажыце, калі ласка, а якія людзі заўсёды прыцягвалі асабіста Вас?

— Адкажу коратка: яны павінны быць унутрана свабоднымі, мэтанакіраванымі і аптымістычнымі. А галоўнае — рабіць дабро.

Шчаслівая, што многія мае вучні засвоілі гэтыя асноўныя пытанні чалавечага жыцця і працягваюць развіваць гэта ў сваіх вучняў, дзяцей і ўнукаў.

— Слухаў Вас і думаў, чаму ўсё-такі перамогі цяжка даюцца чалавеку. Уяўляю, колькі намаганняў даводзіцца затрачваць настаўніку, нават быць самаахвярным, каб выпраміць усяго нечы адзіны лёс, калі ён раптам пайшоў наўскасяк.

А з якіх пазіцый Вы ацэньваеце наша сучаснае жыццё? Толькі з пазіцый матэрыяльнага дабрабыту?

— На гэтае пытанне адказаць і проста, і цяжка. Напэўна, для майго пакалення, многіх маіх былых вучняў, іх бацькоў матэрыяльныя каштоўнасці ніколі не былі галоўнымі. Усіх нас яднала духоўнае багацце. Упэўнена, што вы дагэтуль памятаеце нашы літаратурныя вечарыны на тэмы "Героі і сябры А.С.Пушкіна", "Дзекабрысты", "Героі М.Ю.Лермантава", конкурсы на лепшае чытанне вершаў, інсцэніроўкі твораў класічнай літаратуры, паходы ў кіно, на каток, у тэатры, музеі. Не забываюцца нашы паездкі ў Брэст, Белавежскую пушчу, па пушкінскіх мясцінах, работа ў працоўным летніку, дапамога калгаснікам ва ўборцы гародніны, зборы яблыкаў, шматлікія канцэрты мастацкай самадзейнасці і многае, многае іншае. Усё гэта яднала і нас, і вас, і вашых бацькоў.

**Так адбылося і пасля гэтай нашай працяглай гутаркі, якая яшчэ раз пераканала ў тым, што і цяпер наша настаўніца па-ранейшаму верная самой сабе, свайму прызначэнню, абавязку.**

Аднак цяпер гэтыя паняцці шмат у чым змяніліся. Але я хачу верыць, што ўсё роўна пра чалавека ў будучым будуць меркаваць не толькі з пункту гледжання матэрыяльнага дабрабыту, але і з пазіцый маральнасці і духоўнасці.

Наша пакаленне настаўнікаў працавала з думкай: усё для таго, каб выраслі з нашых вучняў сумленныя людзі. Ды і цяпер шмат у нас такіх настаўнікаў, якія сваёй працай, энергіяй працягваюць нашы традыцыі.

У вас розныя прафесіі і розныя лёсы. Але ёсць у жыцці адна заканамернасць — вы людзі, якія імкнуцца да нечага. І я цвёрда ўпэўнена, што рухаючай сілай чалавека можа стаць адно — незадаволенасць сабой.

— Калі Вы гаварылі пра гэта, мне падумалася, а ці любы актыўны чалавек у той або іншай меры, на Ваш погляд, шчаслівы?

— Лічу, што так. Бо шчасце, якое б яно ні было, поўнае або часовае, — заўсёды клопат. А клопат узвышае чалавека. Шчасце ж складваецца з мноства ўчынкаў, і за кожным з іх — нечае рашэнне, нечы лёс. Ад кожнага залежыць, як быць шчаслівым, а значыць, актыўным чалавекам.

— Вы пражылі актыўнае жыццё. Як прадметнік аддаяце свае веды ўжо ўнукам сваіх выпускнікоў, дзецям родзічаў, якія звяртаюцца да Вас за дапамогай у вучобе. А што для Вас азначала стаць сапраўдным педагогам, як узнікла ў вас гэтая мэта ўсяго вашага жыцця?

— Усё жыццё я аддала школе, дзецям і заўсёды старалася сама назапашваць веды, каб іх потым аддаць іншым. Лічу, што пражыла жыццё калі і звычайнае, дык не будзённае.

Напэўна, каб стаць сапраўдным педагогам, трэба прад'яўляць да сябе вельмі высокія маральныя патрабаванні, выпрацаваць здольнасць да самаабмежавання, самавызначэння. А галоўнае — любіць дзяцей, сваіх вучняў, паважаць іх.

— Пытанне, як стаць Чалавекам, спрадвеку вырашалі вялікія розумы. Як Вы думаеце, цяпер юнацтва таксама вяртае нас да яго?

— Канешне, гэтая праблема — вечная. Бо не хлебам адзіным жывы чалавек. Патрэбна яму ў жыцці яшчэ Ідэя. Памятаеце, як Аркадзя, галоўнага героя рамана Ф.Дастаеўскага "Падлетак", мучылі тысячы пытанняў пра чалавека, яго прызначэнне, пра сэнс быцця. Напэўна, гэта будзе хваляваць і пакаленне XXI стагоддзя.

— Ці можаце Вы сказаць, якога ўмення, на Вашу думку, не хапае сёння ў выхаванні?

— Відаць, умення давяраць і патрабаваць адначасова. Вось хачу нагадаць надпіс на мемарыяльнай дошцы ў Царскасельскім ліцэі: "Тут выхоўваўся А.С.Пушкін". Так, не вучыўся, а выхоўваўся. І, безумоўна, трэба старацца менавіта выхоўваць у сваіх вучняў любоў да навукі, бескарыслівае імкненне не да кар'еры, а да ведаў і творчасці. А гэтая любоў выхоўваецца ў школьныя гады.

— Нярэдка цяпер можна пачуць: старшакласнікі марацЬ хутчэй вырвацца са школы. А што можа зрабіць настаўнік, каб вучні ішлі да яго на ўрок як на свята? Каб, расстаючыся са школай, вучні, як робім гэта мы, працягвалі цягнуцца да настаўніка?

— Перш за ўсё не трэба баяцца памыліцца, трэба заўсёды ўнушаць вучням веру ў свае сілы, не толькі даваць ім глыбокія веды, але вучыць жыццю.

У настаўніка не павінна быць ні любімых, ні нелюбімых вучняў, усім трэба дапамагаць сталець. Заняткі з-пад палкі непазбежна зводзяцца да шкалярства, а не да навучання ў сапраўдным сэнсе гэтага паняцця.

Памятаеце, на нашых уроках літаратуры мы не "праходзілі" матэрыял, а ўжываліся ў яго. І тады часта разгараліся спрэчкі. Ці мог Мікалай Растоў стаць асобай, якая мысліць, і што яму перашкодзіла? З чаго пачалася маральная дэградацыя Барыса Друбяцкога? Абаяльны Долахаў — благі чалавек або не? Каханне да Наташы — шчасце ці няшчасце для князя Андрэя? Задумваліся над вечна вострай праблемай індывідуальнасці. Крытыкавалі Базарава, але ведалі, што ў яго можна навучыцца мужнасці, сумленнасці, упартай працы ў дасягненні мэты.

— Так, у юнацтве, як ніколі, востра марыш пра незвычайны лёс, адчуваеш патрэбу пакінуць свой след на зямлі. І нездарма кажуць: корань вучэння — горкі, а плады яго — салодкія.

А вось бацькі, часта абапіраючыся на свой жыццёвы вопыт і зычачы дзецям шчасця, раяць не гнацца за жоравам у небе, а задавальняцца сініцай у руках. Што Вы на гэта можаце сказаць?

— Па сваім вопыце ведаю, што парады трэба абдумваць, але вырашаць усё самастойна. І так рабілі ўсе мае вучні, таму многія з іх маюць вышэйшую адукацыю, і гэта — дзякуючы сваёй самастойнасці.

Да сказанага яшчэ хачу дадаць, што ўсе дзеці цікаўныя па прыродзе. І калі школьнік на нейкім этапе губляе жаданне вучыцца, вінаватыя ў гэтым і педагогі, і бацькі. Гэта — бяда, і трэба думаць, як з ёю справіцца.

— Гавораць, добры пачатак — напалову выйграная бітва. А калі прымяніць гэта да школы: ад чаго залежыць, на Вашу думку, паспяховы пачатак?

— Пачатак шмат у чым залежыць ад бацькоў. І вы ведаеце, калі я сустракаюся з вамі, мы часта з удзячнасцю ўспамінаем вашых бацькоў. Гэта былі простыя людзі, пераважна рабочыя, але яны добра ведалі, што іх дзеці павінны вучыцца для таго, каб набыць патрэбныя ў жыцці навыкі. У гэтым яны былі нашымі аднадумцамі.

А калі дзіця прыйшло ў школу, дык нельга губляць час. Старт, як у спорце, тут трэба браць энергічна, выкарыстоўваючы ўсе перавагі ўзросту. І калі, як не ў маладосці, бескарысліва аддавацца на волю чыстай, нічым не замутненай цікавасці да ведаў. Я заўсёды гаварыла, што ніякімі спецыяльнымі намаганнямі сапраўднага поспеху ў жыцці не даб'ешся. Яго прыносіць толькі адно — праца. Праца з радасцю, з захапленнем. А для гэтага трэба мець гатоўнасць браць на сябе больш, чым патрабуецца, і тады паявяцца вынікі. Відаць, з падобнымі думкамі працавала амаль ўсё наша пакаленне настаўнікаў і верыла, што з нашых вучняў вырастуць прыгожыя людзі.

— Удзячны Вам за гутарку і ўпэўнены, што многія вашы вучні апраўдалі Вашы спадзяванні, стаўшы не толькі кваліфікаванымі спецыялістамі, але і добрымі душой людзьмі.

У заключэнне хацелася б даведацца, дзякуючы чаму выявілася Ваша ўласнае прызванне? Як узнікла ў Вас мэта ў жыцці — стаць настаўнікам?

— Ведаеце, чым далей жывеш, ты часцей успамінаеш дзяцінства, юнацтва, бацькоў, дарагіх сэрцу людзей. Гэтая памяць сэрца, думаю, мяне дагэтуль абараняе.

Мой бацька — Георгій Данілавіч — быў афіцэрам, потым працаваў на ваенным заводзе імя Коваля ў Данецку, а мама была служачай на чыгунцы, так што яны не паўплывалі на мяне ў выбары прафесіі, хаця па іх расказах ведаю, што ў нашым родзе было нямала настаўнікаў.

Так адбылося і пасля гэтай нашай працяглай гутаркі, якая яшчэ раз пераканала ў тым, што і цяпер наша настаўніца па-ранейшаму верная самой сабе, свайму прызначэнню, абавязку.

**Аляксандр ШУРЫН.**

НА ЗДЫМКУ: настаўніца В.Г.Пяцькова.

**Фота аўтара.**

## Інструктыўна-метадычныя пісьмы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2001 – 2002 навучальны год

# Аб арганізацыі выхаваўчай работы

Цяпер, на рубяжы стагоддзяў, большая частка людзей усведамляе тое, што адукацыя становіцца рухавіком прагрэсу грамадства і дзяржавы. Менавіта гэта прымусіла практычна ўсе вядучыя краіны свету лічыць развіццё адукацыі важнейшым прыярытэтам дзяржаўнай палітыкі.

Адукацыя — той падмурак, які забяспечыць рэалізацыю асноўных задач сацыяльна-эканамічнага развіцця і ў Рэспубліцы Беларусь. Апераджальнае развіццё навукі, павелічэнне экспарту, развіццё прамысловасці, транспарту і сувязі, аграпрамысловага комплексу, жыллёвага будаўніцтва, аховы здароўя, усёй сацыякультурнай сферы немагчымы без павышэння адукацыйнага ўзроўню насельніцтва, падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў.

Але, гаворачы пра значэнне адукацыі, трэба памятаць, што адукаваны чалавек не заўсёды з'яўляецца выхаванай, высокакультурнай асобай. На жаль, у нас ужо і цяпер нямала людзей з дастаткова высокай эрудыцыяй, грунтоўнымі ведамі, але з нізкай планкай духоўнасці і маралі.

Толькі выхаванне робіць супольнасць людзей грамадствам, забяспечвае захаванне гістарычнага, культурнага і духоўнага аблічча народа, фарміраванне сацыяльна і маральна развітай асобы грамадзяніна, патрыёта, працаўніка і сем'яніна.

Наша дзяржава заўсёды адказна ставілася і ставіцца да той ролі, якую мае выхаванне падрастаючага пакалення ў гістарычным лёсе народа і дзяржаўнасці. Мы не зможам дабіцца істотных перамен у эканоміцы і сацыяльнай сферы, калі не забяспечым умоў для фарміравання ў падрастаючага пакалення стваральнай матывацыі, не здолеем засцерагчы яго ад скочвання на ўзровень забаўляльна-спажывецкага ўспрыняцця свету.

Сістэма выхавання падрастаючага пакалення і ў новым навучальным годзе павінна быць накіравана на выхаванне якасцей, якія заўсёды ўласцівы любому народу — любві да бацькоў, павагі да старэйшых, грамадзянскасці і патрыятызму, гордасці за свой народ, маральнасці і працавітасці.

Пры планаванні і арганізацыі выхаваўчай работы неабходна захоўваць пераемнасць у выхаванні, зыходзіць з цэласнасці вучэбна-выхаваўчага працэсу, аптымальнага спалучэння індывідуальных і калектыўных форм работы, узаемадзеяння ўсіх сацыяльна-выхаваўчых інстытутаў грамадства, актыўна выкарыстоўваць пазітыўны вопыт папярэдніх гадоў, у тым ліку мінулага навучальнага года. А такі вопыт назапашаны ва ўсіх абласцях і г.Мінску.

У многіх гарадах і раёнах краіны фарміруюцца новыя мадэлі выхавання на аснове плюралізму і варыянтнасці выхаваўчых праграм, пашырэння ініцыятывы ўсіх суб'ектаў вучэбна-выхаваўчага працэсу, узмацнення асобасна-дзейнаснай накіраванасці адукацыі, фарміравання цэласнай выхаваўчай прасторы, аптымізацыі працэсаў сацыялізацыі і індывідуалізацыі.

Асаблівай увагі заслугоўвае пытанне стварэння дынамічных сучасных методык і тэхналогій выхаваўчай работы з улікам мэт і задач вучэбна-выхаваўчых устаноў розных тыпаў і ўзроўняў. Гаворка ідзе пра забеспячэнне неабходных умоў (арганізацыйных, метадычных, кадравых, рэсурсных) для развіцця выхаваўчых сістэм у рамках адукацыі, упарадкавання іх дзейнасці, якая садзейнічае развіццю асобы, яе індывідуальнаму самавызначэнню ў соцыуме, духоўна-маральнаму фарміраванню чалавека.

Важнейшым арыенцірам для ўдасканалення работы органаў адукацыі, іх метадычных службаў, педагагічных калектываў у новым навучальным годзе стануць два асноватворныя дакументы, якія задаюць напрамкі стратэгіі і тактыкі развіцця сістэмы выхавання ў Рэспубліцы Беларусь: Канцэпцыя выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі ў Рэспубліцы Беларусь (ухвалена Пастановай калегіі Міністэрства адукацыі ад 30.11.1999, № 24) і Праграма выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі (зацверджана загадам міністра адукацыі 24.11.2000, № 475). У самы бліжэйшы час гэтыя дакументы будуць даведзены да ведама ўсіх педагагічных кадраў, шырокай грамадскасці краіны. Канцэпцыя з'яўляецца тэарэтыка-метадалагічным дакументам для прыняцця рашэнняў на розных узроўнях кіравання і стварэння праграмнага, навукова-метадычнага і інфармацыйнага забеспячэння сістэмы выхавання. У прыватнасці, у Канцэпцыі дакладна вызначаны мэты, функцыі і змест выхавання ў сучасных умовах, асаблівасці тэхналогіі выхаваўчага працэсу, яго выніковасць.

Праграма заклікана прывесці ў адпаведнасць з сучаснымі патрабаваннямі змест і арганізацыйную структуру ўсіх ступеняў выхавання і забяспечыць рэалізацыю на практыцы асноўных палажэнняў Канцэпцыі.

Зыходзячы з Канцэпцыі і Праграмы, важнейшымі задачамі выхавання на сучасным этапе з'яўляюцца:

* маральнае развіццё асобы, якое прадугледжвае ўсведамленне вучнямі факта суіснавання і ўзаемадзеяння ў свеце мноства культур; засваенне паняццяў культуры, маральнасці, духоўнасці як асноўных каштоўнасцяў, выхаванне маральных якасцей (сумленнасці, міласэрнасці, гордасці, любві, дабрыні, працавітасці, годнасці) і вопыту маральных паводзін;
* фарміраванне патрыятызму і грамадзянскасці, заснаваных на любві да сваёй зямлі, народа, мовы, павагі да гісторыі сваёй Бацькаўшчыны, нацыянальнай культуры, традыцый і звычаяў. Выхаванне ў вучняў грамадзянскага абавязку і адказнасці, мужнасці, заснаваных на веданні грамадзянскага права і абавязкаў;
* развіццё самасвядомасці асобы як здольнасці ўсвядоміць сябе прадстаўніком чалавецтва, сваёй краіны, народа, сям'і, прафесійнай і іншых груп;
* фарміраванне працоўных і жыццёвых навыкаў як творчага і адказнага стаўлення да працы;
* фарміраванне адказных паводзін;
* фарміраванне здаровага ладу жыцця, што праяўляецца ў адносінах да свайго здароўя як каштоўнасці, уменняў і навыкаў яго захавання і ўмацавання;
* развіццё эмацыянальнай сферы асобы, якая ажыццяўляецца ў першую чаргу ў інтымна-родн асных адносінах у сям'і, заснаваных на любві, клопаце, ненасіллі;
* у працэсе эстэтычнага выхавання — развіццё пачуцця прыгожага, узвышанага сродкамі прыроды, мастацтва, навакольнага прадметнага асяроддзя;
* развіццё экалагічнай свядомасці.

Рэалізацыю названых і шэрагу іншых задач, звязаных з рэгіянальнымі асаблівасцямі, матэрыяльна-кадравых і іншых перадумоў трэба планамерна забяспечваць як на ўроках, вучэбных занятках, так і ў працэсе разнапланавай пазакласнай і пазашкольнай — усёй пазаўрочнай дзейнасці.

Звяртаем увагу метадычных службаў усіх узроўняў, кіраўнікоў навучальных устаноў, іх намеснікаў, усіх педагагічных кадраў на больш поўнае выкарыстанне выхаваўчага патэнцыялу кожнай навучальнай дысцыпліны. Веды самі па сабе не самамэта. Яны павінны ўплываць не толькі на развіццё інтэлекту, але і закранаць патаемныя струны душы і сэрца, фарміраваць маральныя якасці, культуру паводзін дзяцей і моладзі.

Такія падыходы патрабуюць ад настаўнікаў пастаяннага ўдасканалення іх прафесійнага майстэрства, высокай псіхолага-педагагічнай, грамадзянскай і маральна-этычнай культуры. Патрэбна ўсё рабіць для таго, каб педагогі не пераставалі як на занятках, так і ў пазаўрочны час ажыццяўляць знешне нябачную, але надзвычай важную для грамадства работу па выхаванні чалавека і грамадзяніна.

Адным з важнейшых з'яўляецца пытанне аб арганізацыі выхаваўчай работы ў агульнаадукацыйных школах. Улічваючы, што ў апошнія гады з-за шэрагу прычын аслабеў уплыў сям'і, зменшыўся ўдзел грамадскасці ў працэсе выхавання, школа шмат у чым узяла на сябе функцыю сацыяльнай падтрымкі падрастаючага пакалення.

Школьны калектыў са сваімі законамі, нормамі і правіламі калектыўнага жыцця, разгалінаванай сістэмай кіравання, самакіравання і сумеснага кіравання павінен стаць мадэллю грамадзянскага грамадства, якая забяспечвае фарміраванне ў вучняў пазітыўнага вопыту сустрэчы з дарослым светам.

У той жа час трэба адзначыць, што, нягледзячы на зробленыя захады, выхаваўчая работа ў масавай школьнай практыцы яшчэ часта ажыццяўляецца "зверху" і ўяўляе сабой набор стандартных мерапрыемстваў, якія не даюць магчымасці раскрыцца індывідуальнасці дзіцяці, яго прыродным задаткам і схільнасцям. Педагогіка мерапрыемстваў і забаўляльны падыход фарміруюць памылковае ўяўленне пра высокі ўзровень выхаваўчай работы ў навучальных установах. У выніку школа страчвае вучня, а грамадства — грамадзяніна. А гэтага дапускаць нельга.

У цэнтры ўвагі класнага кіраўніка павінны знаходзіцца тры галоўныя напрамкі выхаваўчай работы. Першы звязаны з непасрэдным узаемадзеяннем з вучнем:

* вывучэнне індывідуальных асаблівасцей яго развіцця, інтарэсаў, жыццёвых навыкаў;
* праграмаванне выхаваўчага ўздзеяння;
* рэалізацыя комплексу метадаў і форм індывідуальнай работы;
* уключэнне дзяцей у розныя віды дзейнасці па інтарэсах у рамках існуючых у школе гурткоў, секцый, клубаў;
* аналіз эфектыўнасці выхаваўчага ўздзеяння.

Другі напрамак звязаны са стварэннем выхаваўчага асяроддзя:

* згуртаванне дзіцячага калектыву;
* фарміраванне спрыяльнай эмацыянальнай атмасферы;
* уключэнне дзяцей у розныя віды сацыяльна актыўнай дзейнасці;
* развіццё дзіцячага самакіравання.

Трэці напрамак прадугледжвае карэкцыю і каардынацыю розных выхаваўчых уплываў у соцыуме:

* работа з сям'ёй, далучэнне бацькоў да выхаваўчай работы ў суботні дзень;
* карэкцыя ўздзеянняў сродкаў масавай інфармацыі;
* нейтралізацыя негатыўных уздзеянняў соцыуму;
* узаемадзеянне з культурнымі і іншымі адукацыйнымі ўстановамі.

Асабліва неабходна адзначыць, што адной з важнейшых умоў у вырашэнні гэтых задач з'яўляецца каардынацыя намаганняў усіх удзельнікаў выхаваўчага працэсу. Рэальна гэта забяспечваецца праз комплексны разгляд праблем у адзінстве псіхалагічных, педагагічных і сацыяльных аспектаў. Поспех у арганізацыі выхаваўчай работы класным кіраўніком шмат у чым залежыць ад таго, наколькі ён прадуктыўна ўзаемадзейнічае з педагогам-псіхолагам, сацыяльным педагогам, педагогам-арганізатарам, каардынуе ўзаемадзеянне ўсіх сацыяльных суб'ектаў.

Важнай умовай эфектыўнасці з'яўляецца цеснае супрацоўніцтва і прадуманы падзел функцый паміж агульнаадукацыйнай школай і іншымі ўстановамі, якія займаюцца выхаваннем дзяцей і моладзі.

З гэтага пункту гледжання на першы план выступае стратэгічная задача развіцця ўзаемадзеяння агульнаадукацыйных школ і пазашкольных устаноў. Пры гэтым кожны партнёр па педагагічным узаемадзеянні пры агульнай мэце і задачах выхавання (згодна з Канцэпцыяй і Праграмай выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі ў Рэспубліцы Беларусь) мае свае спецыфічныя спосабы іх вырашэння, вызначаемыя функцыямі і ўмовамі ўласнай дзейнасці. Калі вучэбна-выхаваўчая дзейнасць школы рэгламентуецца адукацыйнымі вучэбнымі праграмамі, рамкамі навучальнага года, тады ў пазашкольных установах забяспечваюцца магчымасці развіцця і рэалізацыі здольнасцей, патрабаванняў, увагі і творчай актыўнасці школьнікаў непасрэдна ў працэсе дзейнасці і выкарыстаннем прыкладных праграм.

Міністэрствам адукацыі распрацаваны і зацверджаны Палажэнне аб пазашкольнай установе, Канцэпцыя і Праграма развіцця сістэмы пазашкольнай адукацыі і выхавання. Праграмы развіцця пазашкольных устаноў на перспектыву, якія прадугледжваюць умацаванне матэрыяльнай базы, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў, укараненне інавацыйных формаў работы, метадычнае забеспячэнне — распрацаваны ва ўсіх абласцях і г.Мінску. Неабходна ўжо ў гэтым годзе распачаць рэалізацыю вызначанага, што павялічыць ролю пазашкольных устаноў у развіцці здольнасцей і схільнасцей, выхавання і сацыялізацыі падрастаючых пакаленняў.

Сістэма выхавання ў ССНУ, ПТНУ вызначаецца Канцэптуальнымі падыходамі да стварэння сістэмы выхавання ў навучальных установах прафесійнай адукацыі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь 15 мая 2001 года, канкрэтызуючымі і развіваючымі ідэі Канцэпцыі выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі ў Рэспубліцы Беларусь. Мэтай сістэмы выхавання ў прафесійнай адукацыі з'яўляецца стварэнне ў навучальнай установе гуманнага выхаваўчага асяроддзя, якое садзейнічае развіццю і самаразвіццю асобы, яе сацыялізацыі.

Прыярытэтнымі накірункамі выхаваўчай дзейнасці навучальных устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі трэба лічыць наступнае:

* сацыяльна-псіхалагічная і педагагічная падтрымка ў асабістым, прафесійным, сацыяльным развіцці;
* развіццё канкурэнтаздольнасці спецыяліста і садзейнічанне ў дасягненні прафесійнай сталасці;
* псіхолага-педагагічная прафілактыка і фарміраванне адказных паводзін асобы.

У новым навучальным годзе абласным (Мінскаму гарадскому) вучэбна-метадычным цэнтрам прафесійнай адукацыі неабходна садзейнічаць стварэнню апорных ПТНУ па праблемах выхавання, а таксама стварэнню ў навучальных установах эксперыментальных пляцовак па апрабацыі сучасных форм і зместу выхавання.

Для ўдасканалення выхаваўчай работы неабходна цалкам выкарыстоўваць рэкамендацыі, дадзеныя на рэспубліканскім семінары-практыкуме, які адбыўся 5-7 чэрвеня бягучага года на базе Полацкіх ПТВ № 66 будаўнікоў, ПТВ № 28 нафтахімікаў, ПТВ № 2 побытавага абслугоўвання насельніцтва, Глыбоцкага і Пастаўскага прафесійных ліцэяў па "Праблемах стварэння аўтарскіх праграм выхавання: тэорыя і вопыт".

Эфектыўнасць выхавання ў многім залежыць ад дзейнасці сацыяльна-псіхалагічнай службы ўстановы. Кіраўнікам ПТНУ, ССНУ трэба садзейнічаць стварэнню ўмоў для больш цеснага ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва сацыяльна-псіхалагічнай службы з ўсімі зацікаўленымі ўдзельнікамі педагагічнага працэсу.

Работа сацыяльна-псіхалагічнай службы ў навучальнай установе арганізуецца на аснове Канцэптуальных падыходаў да стварэння і функцыянавання псіхалагічнай службы ў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных установах, зацверджаных Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь 15 снежня 2000 года.

Трэба адзначыць, што станоўчыя тэндэнцыі ў выхаваўчай рабоце апошніх гадоў ва ўсіх тыпах навучальных устаноў у многім звязаны з дзейнасцю педагогаў-псіхолагаў і сацыяльных педагогаў, эфектыўнасцю псіхалагічнага і сацыяльна-педагагічнага суправаджэння выхаваўчага працэсу.

Прыярытэтнымі накірункамі дзейнасці педагога-псіхолага ў новым навучальным годзе, як і раней, павінны быць псіхалагічная асвета, псіхалагічнае кансультаванне, псіхалагічная работа, псіхакарэкцыя. Паведамляем, што ў гэтым навучальным годзе пройдзе II Рэспубліканскі конкурс "Псіхолаг года".

У сувязі з вялікай колькасцю асацыяльных праяў ў асяроддзі дзяцей і навучэнскай моладзі асаблівую значнасць павінна набыць прэвінтыўна-прафілактычная дзейнасць сацыяльнага педагога і стварэнне спрыяльных маральна-псіхалагічных умоў для кожнага выхаванца ў сценах навучальнай установы. У наладжванні гэтай працы робіць уплыў прафесійна і граматна створаны сацыяльны пашпарт, які ўключае поўны банк дадзеных аб праблемах навучэнцаў, іх сем'яў і сацыяльнага асяроддзя. У той жа час стварэнне такога інфармацыйнага дакумента не мэта, а сродак. Неабходна пазбегнуць распаўсюджанага памылковага меркавання як сярод саміх сацыяльных педагогаў, так і ў педагагічных калектывах пра тое, што менавіта да канстатацыі і ўліку сацыяльна-педагагічных праблем на індывідуальным, калектыўным і абшчынным узроўнях зводзіцца роля сацыяльнага педагога. Банк даных і іншыя даведачныя матэрыялы, якія ён назапашвае і— гэта аснова для аналізу сітуацыі, вызначэння стратэгіі першачарговых і перспектыўных дзеянняў у інтарэсах дзіцяці, аказання яму дапамогі і падтрымкі, і профілю спецыялістаў, якія павінны ўключыцца ў гэты працэс.

Яшчэ адным прыярытэтам дзейнасці і клопатам сацыяльнага педагога ў бягучым навучальным годзе будзе работа па фарміраванні адзінай выхаваўчай прасторы рэгіёна, соцыуму, навучальнай установы. Рэалізаваць гэта магчыма праз наладжванне кантактаў і ўзаемадзеянне з усімі сацыяльнымі інстытутамі і ўдзельнікамі выхавання і сацыялізацыі, аб'яднанне намаганняў і ўвязванне праграм работы з дзецьмі і моладдзю.

Органам адукацыі, кіраўнікам навучальных устаноў неабходна ўдзяліць асаблівую ўвагу камплектаванню існуючых штатаў кваліфікаванымі спецыялістамі, пастаянна трымаць ў полі зроку падрыхтоўку і перападрыхтоўку педагогаў-псіхолагаў і сацыяльных педагогаў, павышэнне іх прафесійнага майстэрства. На жаль, у шэрагу гарадоў і раёнаў штаты такіх спецыялістаў не запоўнены і напалову. Гэта недапушчальна.

Трэба адзначыць, што сістэма павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі спецыялістаў адукацыі ў нашай краіне значна разнастаіла формы работы з сацыяльнымі педагогамі і псіхолагамі ў курсавы і міжкурсавы перыяды, забяспечыла іх змястоўна і метадычна. У той жа час нярэдка сацыяльны педагог і педагог-псіхолаг не маюць поўнай інфармацыі пра магчымыя віды павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі, якія прапануюць інстытуты павышэння кваліфікацыі рэспубліканскага і абласных (Мінскага гарадскога) узроўняў. Звяртаем увагу на тое, што Акадэмія паслядыпломнай адукацыі і Рэспубліканскі інстытут прафесійна-тэхнічнай адукацыі могуць наладжваць выязныя, у тым ліку аўтарскія, курсы і семінары ў любым рэгіёне.

У апошнія гады ў Рэспубліцы Беларусь склалася шматступеньчатая і разгалінаваная сістэма адукацыі ў сферы правоў чалавека і дэмакратыі. У 2000 годзе Міністэрства адукацыі вызначыла новы змест адзінага спецыяльнага курса "Правы чалавека" ў навучальных установах розных тыпаў. Ва ўсіх установах адукацыі (агульнаадукацыйныя школы, прафесійна-тэхнічныя, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы) змест спецыяльнага курса "Правы чалавека" складаецца з трох блокаў: правы дзіцяці, правы чалавека, міжнароднае гуманітарнае права.

Для метадычнага забеспячэння развіцця адукацыі ў галіне права толькі ў 2000 годзе выдадзены тры нацыянальныя вучэбныя дапаможнікі. Распрацаваны і апублікаваны рэкамендацыйны спіс мастацкай літаратуры ў дапамогу настаўніку. Рыхтуюцца да выдання тры хрэстаматыі і кнігі для чытання.

У многіх рэгіёнах склалася цэласная сістэма пазаўрочнай дзейнасці па гэтым накірунку. У навучальных установах, органах адукацыі краіны ствараюцца інфармацыйныя цэнтры па правах чалавека. З 1999 года выдаецца Рэспубліканскі інфармацыйны бюлетэнь "Абарона і справядлівасць" пад дэвізам "Правы дзіцяці — у дзеянні".

Гэтую работу, а таксама рэалізацыю Закону Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці" патрэбна прадаўжаць яшчэ больш энергічна.

18-21 верасня бягучага года адбудзецца спецыяльная сесія Генеральнай Асамблеі ААН на вышэйшым узроўні па становішчы дзяцей. У сесіі прыме ўдзел урадавая дэлегацыя і нашай краіны. Матэрыялы і дакументы сесіі неабходна ў поўнай меры выкарыстоўваць пры правядзенні сацыяльна-выхаваўчай работы.

Значных поспехаў у адукацыі і выхаванні, абароне правоў дзяцей немагчыма дабіцца без актыўнага ўзаемадзеяння з сям'ёй — базавым інстытутам сацыялізацыі дзяцей і моладзі. Навучальныя ўстановы, выкарыстоўваючы розныя формы сацыяльнага партнёрства з сям'ёй, назапасілі пазітыўны вопыт сумесных дзеянняў.

Пачалі стварацца бацькоўскія клубы, на больш дзейснай аснове сталі аднаўляцца універсітэты ведаў для бацькоў, праводзяцца кансультацыі, выкарыстоўваюцца іншыя формы індывідуальнай работы, вывучаецца і распаўсюджваецца вопыт сямейнага выхавання.

Але ўсё ж у нас тут больш праблем, чым дасягненняў. Большай і сістэмнай увагі патрабуюць няпоўныя, "крызісныя" сем'і, якія з'яўляюцца першапрычынай злачыннасці сярод непаўналетніх, павелічэнне беспрытульнасці і сіроцтва. Па стане на 1 студзеня 2001 года ў краіне налічвалася 30,1 тыс.дзяцей сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Неабходна рабіць дзейсныя захады па папярэджванні сіроцтва і беспрытульнасці. Асаблівую ролю ў гэтым закліканы адыграць сацыяльныя прытулкі (на 1 студзеня 2001 года іх налічвалася ў краіне 66). Шматлікія прытулкі бяруць дзяцей з сем'яў, якія знаходзяцца на мяжы распаду, не займаюцца выхаваннем сваіх дзяцей і адначасова прыцягваюць увагу мясцовых улад, шырокай грамадскасці да гэтых сем'яў, сумеснымі намаганнямі ўплываюць на паляпшэнне мікраклімату ў іх. Часта такая работа дае станоўчы вынік — дзеці вяртаюцца ў сем'і. У выпадку немагчымасці захавання сям'і, пазбаўлення бацькоўскіх правоў, у першую чаргу, неабходна садзейнічаць устанаўленню, уладкаванню сірот ў апякунскія, прыёмныя сем'і. Гэта задача органаў адукацыі, педагагічных калектываў, усёй грамадскасці.

Неабходна трымаць у полі зроку ўсе шматдзетныя, малазабяспечаныя сем'і, аказваючы ім усемагчымую падтрымку, выкарыстоўваючы для гэтага не толькі меры, якія прымаюцца па лініі дзяржавы, але і абапіраючыся на мясцовыя магчымасці, гуманітарную і спонсарскую дапамогу. Для таго, каб гэтая і іншая сацыяльная работа вялася сістэмна і планамерна, неабходна ўсюды, акрамя сацыяльных прытулкаў, ствараць сацыяльна-педагагічныя цэнтры, цэнтры сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей, якія змогуць аб'яднаць вакол сябе намаганні не толькі педагогаў, бацькоў, але і ўсіх сацыяльна-выхаваўчых інстытутаў грамадства, якія павінны клапаціцца пра лёс нашых дзяцей — будучыню краіны.

Адным з крытэрыяў ацэнкі эфектыўнасці выхаваўчай работы, як вядома, з'яўляецца ўзровень злачыннасці сярод падлеткаў. Дзякуючы дзейнасці кіраўнікоў навучальных устаноў, класных кіраўнікоў, куратараў, майстроў вытворчага навучання, сацыяльных педагогаў, педагогаў-псіхолагаў, усіх педагагічных кадраў, узаемадзеянню з праваахоўнымі органамі, іншымі дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі, пачынаючы з 1997 года, колькасць злачынстваў, якія ўчыняюць падлеткі, штогод няўхільна зніжаецца.

У 2000 годзе ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі таксама знізілася колькасць дзяцей, якія ўдзельнічалі ў злачынствах. Адзначаецца зніжэнне ўзроўню падлеткавай злачыннасці ва ўсіх абласцях рэспублікі. Так, калі ў 1999 годзе непаўналетнімі правапарушальнікамі ўчынены 9344 злачынствы, то ў бягучым — 9028 (3,4 працэнта), ва ўчыненні злачынстваў прымалі ўдзел суадносна 8129 і 7769 падлеткаў (4,4 працэнта). Знізілася колькасць такіх відаў цяжкіх злачынстваў з ўдзелам непаўналетніх, як наўмыснае забойства і замах на забойства (на 12,1 працэнта), крадзяжоў маёмасці (на 7,3 працэнта), хуліганства (на 5,5 працэнта). Сярод непаўналетніх, здольных да ўчынення супрацьпраўных учынкаў, у мінулым годзе таксама паменшылася колькасць навучэнцаў школ і ПТВ (суадносна на 4,7 і 1,5 працэнта), злачынстваў, учыненых у групе (на 8,8 працэнта), асуджаных да пазбаўлення волі ўмоўна (на 6,4 працэнта).

Вышэйназваныя тэндэнцыі адзначаюцца і ў бягучым годзе. За 7 месяцаў бягучага года колькасць асоб, якія здзейснілі злачынства ў непаўналетнім узросце, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года скарацілася суадносна на 14,8 і 17,3 працэнта.

Але супакойвацца нельга. У шэрагу гарадоў і раёнаў дапушчаны рост злачыннасці непаўналетніх, у дзіцячым і маладзёжным асяроддзі пашыраецца п'янства, наркаманія, якія з'яўляюцца пажыўнай глебай для злачыннасці.

На 1 студзеня 2001 года ў рэспубліцы на ўліку ва ўстановах аховы здароўя знаходзілася 6661 асоба, якія пакутуюць ад наркаманіі, у тым ліку 4750 наркаманаў. З іх 49,8 працэнта — асобы ва ўзросце да 25 гадоў, 10 працэнтаў — навучэнцы і 5,4 працэнта — студэнты. У стане алкагольнага ап'янення злачынствы ў 2000 годзе ўчынілі 1854 непаўналетнія, ці 20,5 працэнта ад усёй колькасці.

Неабходна сумесна з усімі зацікаўленымі актывізаваць работу па стварэнні і ўмацаванні матэрыяльнай базы, кадравым забеспячэнні рэгіянальных сацыяльна-педагагічных і псіхолага-педагагічных устаноў, а таксама адпаведных структурных падраздзяленняў і службаў непасрэдна ва ўстановах адукацыі, комплексна вырашаць пытанні сацыяльнай рэабілітацыі, якая патрэбна юнакам і дзяўчатам з групы рызыкі, праблемных сем'яў. У рэспубліцы распрацаваны і прыняты шэраг дзяржаўных праграм, накіраваных на зніжэнне ў цэлым узроўню злачыннасці сярод насельніцтва рэспублікі. Неабходна арганізаваць работу такім чынам, каб мерапрыемствы, прадугледжаныя імі, былі вырашаны ў поўным аб'ёме і ва ўстаноўленыя тэрміны.

У гэтай рабоце трэба кіравацца Дзяржаўнай праграмай па ўмацаванні барацьбы са злачыннасцю на 2001-2003 гады (зацверджана Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 мая 2001 года № 266). Акрамя гэтага, распрацаваны і ў бліжэйшы час будзе прыняты праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб асновах сістэмы прафілактыкі безнагляднасці і правапарушэнняў непаўналетніх".

Абгрунтаваную трывогу органаў кіравання адукацыяй і калектываў вучэбна-выхаваўчых устаноў выклікае стан здароўя дзяцей і навучэнскай моладзі, амаладжэнне такіх асацыяльных з'яў, як курэнне, ужыванне алкаголю, таксічных і наркатычных рэчываў, распаўсюджванне ВІЧ-інфекцыі. Галоўнай стратэгіяй работы ўсіх структур сістэмы адукацыі павінна стаць фарміраванне здаровага ладу жыцця, адносін да здароўя як важнейшай маральнай каштоўнасці, асновы духоўнага і матэрыяльнага дабрабыту.

За апошні год Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняты шэраг дзяржаўных праграм, накіраваных на стабілізацыю сітуацыі і супрацьдзеянне распаўсюджванню алкагалізму, наркаманіі і ВІЧ-інфекцыі ў краіне: "Здароўе — народу", "Прафілактыка ВІЧ-інфекцыі", "Нацыянальныя дзеянні па прадухіленні і пераадоленні распаўсюджвання п'янства і алкагалізму", "Фарміраванне здаровага ладу жыцця" і інш. Выкананне вышэйназваных праграм — гэта абавязковая і неад'емная частка ўсёй работы упраўленняў і аддзелаў адукацыі абл(гар)райвыканкамаў. Фарміраванне здаровага ладу жыцця, навучанне дзяцей з ранняга дашкольнага ўзросту навыкам захавання і ўмацавання здароўя можна забяспечыць толькі праз сістэматызацыю гэтай работы, лагічнае аб'яднанне магчымасцей дысцыплін вучэбнага плана, пазакласнай і пазашкольнай дзейнасці. Мэтазгодна мець у кожнай вучэбна-выхаваўчай установе комплексныя праграмы фарміравання здаровага ладу жыцця як асноўнай састаўляючай агульнай сістэмы ці праграмы выхавання. Гэта дазволіць улічыць асаблівасці калектыву, аб'яднаць арганізацыйна-педагагічныя, кадравыя і матэрыяльныя магчымасці. Перш за ўсё ў педагагічных калектывах трэба пераадолець стэрэатыпы абыякавых адносін да брыдкаслоўя, курэння, ужывання спіртнога як нейкай неад'емнай характэрнай для нас традыцыі. Яшчэ раз трэба падкрэсліць, што курэнне і ўжыванне спіртных напояў ва ўстановах адукацыі з'яўляецца недапушчальным.

У сувязі са стварэннем дзяржаўнай сістэмы аздараўлення і пераходам на круглагадовы яго характар павінны атрымаць далейшае развіццё розныя арганізацыйныя формы аздараўлення, профільныя аздараўляльныя летнікі. Неабходна ўдзяліць больш ўвагі ўдасканаленню выхаваўчай работы ў аздараўленчых установах. Ёй трэба надаць сістэмнасць ў рэчышчы агульных падыходаў да выхавання, разнастаіць формы і метады, адмовіцца ад дэкларатыўнасці і заарганізаванасці.

У прамой узаемасувязі з рашэннем задач выхавання, укаранення здаровага ладу жыцця знаходзяцца пытанні дасканаласці фізічнай культуры дзяцей і моладзі. Для іх рэалізацыі ў рэспубліцы прынята канцэпцыя фізічнага выхавання дашкольнікаў, навучэнцаў і студэнтаў, распрацаваны і ўкаранёны Дзяржаўны фізкультурна-аздараўленчы комплекс, праграма маладзёжнага фізкультурна-спартыўнага руху "Алімпійскія надзеі Беларусі", прыкладны фізкультурна-спартыўны комплекс "Абаронец Айчыны", перапрацаваны і дапоўнены вучэбныя праграмы па фізічнай культуры.

Аргументаваныя рэкамендацыі па паляпшэнні фізічнага выхавання, максімальным ахопе дзяцей і моладзі фізкультурна-аздараўленчымі і спартыўна-масавымі мерапрыемствамі дадзены асобна ў інструктыўна-метадычным лісце, які апублікаваны ў "Настаўніцкай газеце".

Ва ўмовах Беларусі — вельмі важныя задачы фарміравання экалагічнага мыслення дзяцей і моладзі.

Усе вучэбна-выхаваўчыя ўстановы павінны кіравацца палажэннем Канцэпцыі адукацыі ў частцы навакольнага асяроддзя і Рэспубліканскай праграмай удасканалення адукацыі ў частцы навакольнага асяроддзя, якія адобраны Пастановай калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь 21.04.1999 № 12/363 і Пастановай калегіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя 19.03.1999 № 3.1 Дакументы надрукаваны асобнай брашурай у 2001 годзе. У гэтых дакументах экалагічнае выхаванне разглядаецца як адзіны бесперапынны працэс, пачынаючы з сямейнага і дашкольнага выхавання і завяршаючы сістэмай перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі спецыялістаў.

У нашай краіне, дзе экалагічная сітуацыя ўскладняецца вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, востра стаіць праблема выжывання ў агрэсіўных умовах навакольнага асяроддзя, забруджанага радыенуклідамі. У сувязі з гэтым пры рэзкім росце захворваемасці дзяцей і моладзі важнае месца трэба ўдзяліць фарміраванню ўменняў і навыкаў адаптацыі да ўмоў навакольнага асяроддзя, выжывання, захавання і прымнажэння здароўя, праяўленню клопату аб здароўі будучых пакаленняў.

З 2001 года ў зонах радыяцыйнага кантролю апрабуецца эксперыментальная праграма па экалогіі, гігіене і радыяцыйнай бяспецы для дашкольнікаў. Для метадычнага забеспячэння падрыхтаваны комплексы "Радыеэкалогія для маленькіх", метадычныя рэкамендацыі "Псіхолага-педагагічная дапамога дзецям у зонах радыеэкалагічнага кантролю". Міністэрства адукацыі распрацавала праграму курса радыяцыйнай бяспекі для школ гэтых зон.

Асобнае месца для дзяцей, якія пацярпелі ў выніку катастрофы на ЧАЭС, займае арганізацыя штогадовага аздараўлення і навучання ў месцах аздараўлення. Міністэрства адукацыі распрацавала вучэбныя планы для агульнаадукацыйных школ, якія працуюць у месцах аздараўлення дзяцей, зонах радыяцыйнага забруджання вышэй 1 Кі/кв.км. Упраўленням адукацыі аблвыканкамаў трэба арганізаваць кантроль за арганізацыяй навучання і выхавання ў месцах аздараўлення дзяцей. У мінулым навучальным годзе былі скаргі на дрэнную арганізацыю выхаваўчай работы ў некаторых месцах аздараўлення, на нядобрасумленнае выкананне сваіх функцый асобнымі педагогамі. У далейшым недахопы такога роду трэба выключыць.

Важнае месца ў выхаванні навучэнцаў школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў займаюць пытанні фарміравання ў моладзі патрыятычнай свядомасці, пачуцця вернасці сваёй Айчыне, гатоўнасці да выканання грамадзянскага і канстытуцыйнага абавязку. Ва ўсіх рэгіёнах, многіх навучальных установах накоплен багаты вопыт работы, абумоўлены Канцэпцыяй і Праграмай патрыятычнага выхавання навучэнцаў і студэнтаў.

У навучальна-выхаваўчых установах рэспублікі вядзецца работа па накірунках Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі "Наш край". У рамках экспедыцыі многа робіцца па вывучэнні роднага краю, яго гістарычнага мінулага, папаўненні экспазіцый і стварэнні новых музеяў. У цяперашні час у навучальных установах рэспублікі дзейнічае звыш 1200 музеяў рознай накіраванасці, у тым ліку 262 музеі баявой славы.

Сумесна з Міністэрствам абароны праведзен конкурс летапісаў вайсковых часцей і аб'яднанняў рэспублікі, у якім прынялі ўдзел звыш 400 школьных калектываў. Масавы характар набыла рэспубліканская віктарына "Пераемнікі славы", якая разлічана на перспектыву. Актыўную і планамерную работу ў дадзеным накірунку трэба правесці і ў новым навучальным годзе.

Кажучы аб асноўных накірунках выхаваўчай работы, трэба падкрэсліць, што галоўным выхавальнікам была і застаецца праца — праца думкі і праца фізічная. У гэтай сувязі неабходна сумесна з маладзёжнымі структурамі, працоўнымі калектывамі больш увагі ўдзяляць рашэнню праблем другаснай занятасці, арганізацыі работы працоўных аб'яднанняў навучэнцаў і студэнтаў, асабліва ў канікулярны час.

Названыя і іншыя праблемы немагчыма вырашыць без актыўнага ўдзелу саміх дзяцей і моладзі. Надзвычайна важным з'яўляецца падтрымка і развіццё вучнёўскага і студэнцкага самакіравання, стварэнне педагагічна мэтазгодных умоў для актыўнай дзейнасці дзіцячых і маладзёжных арганізацый. Але ж на справе часцей адбываецца наадварот.

На II Рэспубліканскім форуме дзяцей Беларусі, які адбыўся 31 мая — 2 чэрвеня бягучага года, дзеці пераканаўча гаварылі пра нежаданне дарослых, у тым ліку педагогаў і бацькоў, лічыцца з іх меркаваннямі, давяраць ім, падтрымліваць іх пачынанні. Шмат прыводзілі прыкладаў псіхічнага і фізічнага насілля з боку дарослых.

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана звыш 80 дзіцячых і маладзёжных аб'яднанняў. Між тым, ёсць клубы і аб'яднанні па інтарэсах. Усе яны розныя па сваіх задачах, мэтах і колькасным складзе, але ж усе яны заслугоўваюць павагі і падтрымкі.

Рэалізацыя выхаваўчага патэнцыялу грамадскіх арганізацый залежыць ад магчымасцяў супрацоўніцтва з адміністрацыяй навучальных устаноў, на базе якіх яны ствараюцца і дзейнічаюць. Таму прынцыповую значнасць для грамадскіх аб'яднанняў мае праблема, звязаная з падтрымкай іх дзейнасці ў адукацыйных установах. Рашэнне дадзенай праблемы заключана ў:

— аваладанні методыкай і тэхнікай працы ў грамадскіх арганізацыях дарослых лідэраў;

— гатоўнасці адміністрацыі навучальнай установы аказваць садзеянне ў арганізацыі работы грамадскіх арганізацый;

— стымуляванне жадання дзяцей і моладзі з боку дарослых прымаць актыўны ўдзел у дзейнасці грамадскіх арганізацый;

— стварэнне сацыяльна-пазітыўных умоў у выяўленні згоды бацькоў для актыўнага ўдзелу дзяцей у жыцці грамадскіх арганізацый.

Усе палажэнні гэтага пісьма ў роўнай ступені адносяцца да ўсіх устаноў адукацыі, у тым ліку і вышэйшых навучальных устаноў. Хацелася б толькі падкрэсліць, што ВНУ, валодаючы вялікім навукова-творчым патэнцыялам, маюць права самастойна, зыходзячы з агульных праграмна-канцэптуальных падыходаў, стварыць свае выхаваўчыя сістэмы, якія дапамогуць рыхтаваць не толькі высокапрафесійных спецыялістаў, але, перш за ўсё, маральных, пачэсных грамадзян сваёй краіны.

Час паказаў, што студэнтам для паспяховай сацыяльна-прафесійнай адаптацыі патрэбны вопытны настаўнік-куратар, які напрамую выходзіць на асобу студэнта, ведае яго праблемы і патрэбы, інтарэсы і сацыяльныя запыты. Наступаючы навучальны год павінен прайсці пад дэвізам "Студэнтам — куратара-прафесіянала". Для гэтага неабходна арганізаваць навучанне куратараў па псіхолага-педагагічных праблемах студэнцтва, метадах работы з імі. Гэта можа быць семінар, які пастаянна дзейнічае, з прыцягненнем спецыялістаў, самастойная работа саміх куратараў пры наяўнасці адпаведнай літаратуры і іншыя формы павышэння кваліфікацыі педагагічнага майстэрства.

Новы навучальны год асаблівы таму, што гэта год II з'езда настаўнікаў Рэспублікі Беларусь. Рашэнні з'езда будуць мець першарадную значнасць пры вызначэнні і рэалізацыі адукацыйна-выхаваўчых задач на сённяшнім этапе і на перспектыву. У сувязі з гэтым неабходна будзе ўнесці адпаведныя карэктывы на ўсіх узроўнях у планы і праграмы выхаваўчай дзейнасці.

Плённых поспехаў у новым навучальным годзе вам, паважаныя калегі, здароўя, шчасця і дабрабыту.

**Галоўнае ўпраўленне сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

